# Голас Радзімы

№ 48 (2086)
1 снежня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



І. Гутарка пачалася даволі нечакана.

— Што ў нас новага! — перапытаў мяне старшыня калгаса імя Горкага Пінскага раёна Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Гарошка. — Ёсць добрая навіна: нарэшце, маем прамы выхад да Чорнага мора.

Я нічога не зразумеў: адсюль да Чорнага мора не адна сотня кіламетраў.

Злева і справа ад пясчанай дамбы, па якой мы ехалі, працягнуліся меліярацыйныя каналы і зараснікі чароту. Яны і нагадвалі пра тое, што калісьці тут было непралазнае балота. Хвілін праз пятнаццаць спыніліся на беразе Прыпяці.

— Вось яна, дарога да Чорнага мора, — сказаў старшыня. — У гэтым месцы збіраемся пабудаваць невялікі порт. Гэта будзе самы танны варыянт для атрымання пяску, гравію, іншых будаўнічых матэрыялаў.

НА ЗДЫМКАХ: старшыня калгаса Герой Сацыялістычнай Працы Васіль ГАРОШКА; асфальтаванне вясковай вуліцы; у пасёлку Лосічы.





З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

## У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ

У Мінску адбылася чарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР. Яна абмеркавала Дзяржаўны план эканамічнага і сацыяльнага развіцця і Дзяржаўны бюджэт Беларускай ССР на 1989 год, Рэспубліканскую праграму «Здароўе» на перыяд да 2000 года. Сесія зацвердзіла Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Сярод іншых пытанняў Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевіч па даручэнню Прэзідыума Вярхоўнага Савета ўнёс на разгляд дэпутатаў прапанову аб выбранні Пастаяннай камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР.

Вярхоўны Савет БССР аднагалосна прыняў пастанову аб утварэнні такой камісіі. У яе склад ўвайшоў 21 дэпутат. Старшынёй абраны пісьменнік Іван Чыгрынаў.

У сваім выступленні Г. Таразевіч абгрунтаваў мэтазгоднасць стварэння Камісіі па нацыянальных пытаннях. Ён, у прыватнасці, сказаў: «Чаму ж мы цяпер зноў і зноў вяртаемся да гэтых пытанняў? Ды таму, што міжнацыянальныя адносіны, як і любая грамадская з'ява, не могуць быць чымсьці раз і назаўсёды вырашаным. Яны дынамічныя, знаходзяцца ў сваім пастаянным развіцці. І сёння мы бачым, да якіх вынікаў прыводзіць няўвага да нацыянальных праблем.

Уласцівы пачатковаму этапу фарміравання нашай многанацыянальнай дзяржавы дынамізм быў страчаны адыходам ад ленінскіх прынцыпаў нацыянальнай палітыкі і парушэннямі законнасці ў перыяд культу асобы, а таксама ідэалогіяй застою.

Вось чаму на аснове рашэнняў XXVII з'езда КПСС XIX партыйная канферэнцыя паставіла задачу гістарычнай важнасці — настойліва ўсталёўваць і творча развіваць ленінскія нормы і прынцыпы нацыянальнай палітыкі, рашуча ачышчаць іх ад штучных наслаенняў і дэфармацый.

Праблемы развіцця міжнацыянальных адносін, як вядома, будуць разглядацца ў сярэдзіне наступнага года на Пленуме ЦК КПСС. Аднак, не чакаючы яго рашэнняў, нам трэба ўжо цяпер рабіць энергічныя дзеянні, каб знімаць узнікаючыя вострыя пытанні, асабліва ў сацыяльнай сферы, у развіцці нацыянальнай культуры, мовы. Важна не ўпускаць ініцыятыву ў пастаноўцы і вырашэнні наспеўшых праблем, пераадольваць адставанне практычнай работы ад працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве».

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. На ім было разгледжана пытанне аб ходзе ўсенароднага абмеркавання ў рэспубліцы праектаў Закона СССР аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) СССР і Закона СССР аб выбарах народных дэпутатаў СССР.

Адзначалася, што вынесеныя на ўсенароднае абмеркаванне праекты ўказаных законаў выклікалі ў рэспубліцы глыбокую цікавасць. Яны шырока абмяркоўваюцца дэпутатамі Саветаў, у працоўных калектывах і па месцы пражывання грамадзян, у друку, па тэлебачанні і радыё. Гэтыя дакументы ў абсалютнай большасці атрымліваюць падтрымку і адабрэнне і ўспрыняты як важны крок далейшай дэмакратызацыі савецкага грамадства, усталявання прынцыпаў сацыялістычнай прававой дзяржавы. Вялікае значэнне вынесеных на абмеркаванне дакументаў для забеспячэння народаўладдзя, павышэння ролі і адказнасці Саветаў адзначылі дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларускай ССР на прайшоўшай дзесятай сесіі вышэйшага органа дзяржаўнай улады.

Працоўныя рэспублікі з разуменнем ставяцца да таго, што іншыя змяненні і дапаўненні Канстытуцыі СССР, якія датычаць эканамічнай сістэмы, нацыянальна-дзяржаўнай будовы, правоў, свабод і абавязкаў грамадзян, прадугледжваецца вырашыць на наступных этапах палітычнай перабудовы.

У прынятай пастанове Прэзідыум адобрыў асноўныя палажэнні праектаў Закона СССР аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) СССР і Закона СССР аб выбарах народных дэпутатаў СССР.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР не падзяляе неканструктыўную пазіцыю Вярхоўнага Савета Эстонскай ССР, паколькі унесеныя ім папраўкі ў Канстытуцыю і прынятыя іншыя дакументы супярэчаць Канстытуцыі СССР і не ўзгадняюцца з асноўнымі прынцыпамі, на якіх грунтуецца савецкая сацыялістычная федэрацыя, не садзейнічаюць умацаванню нашай адзінай многанацыянальнай дзяржавы, далейшаму ажыццяўленню перабудовы.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## «МАЗ» З НОВЫМ МАТОРАМ

Апошні экзамен засталося здаць грузавіку новага сямейства «МАЗ-6422» з рухавіком «М.А.Н». Наладзіўшы сувязі з гэтай вядомай заходнегерманскай фірмай, спецыялісты Мінскага аўтазавода вырашылі яшчэ раз праверыць «гібрыдную» канструкцыю цягача.

Узор машыны з перасаджаным «сэрцам» ужо дэманстраваўся на міжнародных выстаўках у Гамбургу і Маскве, дзе выклікаў цікавасць камерсантаў многіх краін. Высокую якасць аўтамабіляў пацвярджаюць і дарожныя выпрабаванні.

КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## ДРУГІ СТАРТ САВЕЦКА-ФРАНЦУЗСКАГА ЭКІПАЖА

26 лістапада ў Савецкім Саюзе ажыццёўлены запуск касмічнага карабля «Саюз ТМ-7».

Карабель пілатуе міжнародны экіпаж: камандзір Герой Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт СССР Аляксандр Волкаў, бортінжынер Сяргей Крыкалёў і касманаўт-даследчык, Герой Савецкага Саюза, грамадзянін Французскай Рэспублікі Жан-Лу Крэцьен.

**Праграмай палёту прадугледжваецца стыкоўка карабля «Саюз ТМ-7» з арбітальным комплексам «Мір» і правядзенне на яго борце навукова-тэхнічных даследаванняў і эксперыментаў сумесна з касманаўтамі Уладзімірам Цітовым, Мусой Манаравым і Валерыем Паляковым.**

Другі савецка-французскі касмічны палёт ажыццёўлены ў адпаведнасці з дагаворанасцю паміж урадамі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Французскай Рэспублікі.

**НА ЗДЫМКУ: бортінжынер Сяргей КРЫКАЛЁЎ, камандзір экіпажа лётчык-касманаўт СССР, Герой Савецкага Саюза Аляксандр ВОЛКАЎ і французскі касманаўт-даследчык, Герой Савецкага Саюза Жан-Лу КРЭЦЬЕН.**



ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ

## ЗНЯТЫ АБВІНАВАЧАННІ

На пасяджэнні Камісіі Бюро ЦК Кампартыі Беларусі па дадатковаму вывучэнню матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі, якія мелі месца ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў, заслухана інфармацыя старшыні Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК КПБ В. Галавана аб рабоце па аднаўленню ў партыі былых рэпрэсіраваных грамадзян. Цяпер на разглядзе знаходзіцца 56 спраў. Работа гэта праводзіцца ў цеснай сувязі з партыйнымі камітэтамі, ветэранамі партыі, адміністрацыйнымі органамі, вучонымі, шырокай грамадскасцю, сваякамі загінуўшых.

Аб пераглядзе крымінальных спраў і рэабілітацыі незаконна прыцягнутых да крымінальнай адказнасці па палітычных матывах грамадзян інфармаваў пракурор рэспублікі Г. Тарнаўскі. Толькі за 9 месяцаў гэтага года органамі пракуратуры рэспублікі вывучаны і прынесены пратэсты аб адмене прайшоўшых рашэнняў і спыненні 143 крымінальных спраў на 411 чалавек. Усе пратэсты судамі задаволены, і такім чынам зняты незаслужаныя абвінавачанні яшчэ з 411 чалавек, у тым ліку з былых: наркома земляробства рэспублікі Д. Прышчэпава, наркома асветы А. Баліцкага, загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б, а пасля працаваўшага намеснікам наркома земляробства БССР А. Адамовіча, намесніка загадчыка Дзяржвыда П. Ільючонка, вялікай групы літаратурных работнікаў, 19 сялян-сераднякоў з Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці і многіх іншых.

Работа па праверцы і перагляду крымінальных спраў ажыццяўляецца незалежна ад наяўнасці заяў і скаргаў грамадзян, пераглядаюцца ўсе справы на асоб, прыцягнутых да адказнасці ў 30—40-я гады і пачатку 50-х гадоў па абвінавачванню ва ўчыненні злачынстваў, аднесеных заканадаўствам таго перыяду да контррэвалюцыйных.

НАШЫ ЗАХАПЛЕННІ



**Вось такі корань жэньшэню вырасціў сёлета на сваім прысядзібным участку пенсіянер Уладзімір КОТАЎ. Жыве аматар у Бабруйскім раёне. Дзесяць гадоў назад захапіўся ён новай для сябе справай, а цяпер ужо сам дае каштоўныя парады пачынаючым, дапамагае ім насеннем, расадай. Бо ў рэспубліцы ўжо больш за дзвесце жэньшэняводаў-аматараў.**

УКАРАНЕННЕ НАВУКОВЫХ ІДЭЙ

## ДАПАМОЖА «НАВАТАР»

Месяц замест звычайных двух-трох гадоў чакалі праект на рэканструкцыю гарадскіх ачышчальных збудаванняў будаўнікі з Браслава. На тытульным лісце прысланага ім з Мінска дакумента стаяў подпіс «Наватар».

Так называецца новы гаспадарчаразліковы цэнтр навукова-тэхнічных праблем. Браслаўскі праект — проба сіл, адна з першых яго работ. Яна пацвердзіла: задума была правільная, у цэнтра ёсць будучыня.

А сумненні ў поспеху справы спачатку былі немалыя. Не жарты: некалькі чалавек узяліся вырашыць праблемы, над якімі гадамі біліся навукова-даследчыя інстытуты. «Наватар» бярэ заказы на ўкараненне навуковых ідэй, распрацоўку і выраб доследных узораў тэхнікі, адладку тэхналогій, камп'ютэрызацыю вытворчасці...

Рабіць усё гэта супрацоўнікі цэнтра, зразумела, будуць не сваімі рукамі. Іх роля — арганізацыя, пасрэдніцтва. Для выканання заказаў ствараюцца часовыя творчыя групы, у якія на дагаворных асновах залучаюцца лепшыя вучоныя, спецыялісты, студэнты. Так што карысць ад цэнтра двайная: адкрываецца дарога на вытворчасць новай тэхніцы, людзі творчыя могуць з дапамогай «Наватара» раскрыць свае здольнасці.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## БІТУМ... З ПАЛІМЕРАЎ

У Беларускім політэхнічным інстытуце спецыялістамі кафедры будаўніцтва і эксплуатацыі дарог распрацавана ўстаноўка для перапрацоўкі другасных палімерных матэрыялаў. Яна дазваляе атрымліваць з адходаў палімернай вытворчасці бітум, асфальтабетон, гідраізаляцыйныя матэрыялы, якія знаходзяць шырокае прымяненне ў дарожным будаўніцтве.

Новая тэхналогія вытворчасці будаўнічых матэрыялаў дала эканамічны эфект пры перапрацоўцы толькі 5 тысяч тон другасных палімераў больш за 800 тысяч рублёў. Распрацоўка беларускіх вучоных атрымала прызнанне у нас у краіне і за рубяжом.

УНІКАЛЬНАЕ ВЫДАННЕ

## ІМЯ Ў ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

Краязнаўцам, калекцыянерам мінералаў, выкладчыкам школ і вышэйшых навучальных устаноў акажа вялікую дапамогу выпускаемая маскоўскім выдавецтвам «Советская энциклопедия», унікальная «Горная энциклопедия». У ёй падрабязна расказваецца аб пошуках і здабычы карысных выкапняў у СССР і іншых краінах свету.

У нядаўна выпушчаным трэцім томе энцыклапедыі прыцягвае ўвагу раздзел, прысвечаны ўраджэнцу Мінскай вобласці, вядомаму савецкаму геологу, удзельніку адкрыцця радовішчаў нафты, жалезных руд і іншых выкапняў на тэрыторыі рэспублікі, акадэміку АН БССР Аляксандру Махначу.

*ЭКАЛАГІЧНАЕ ВЫХАВАННЕ*

# ПРЫРОДА Ў ШКОЛЬНЫМ РАСКЛАДЗЕ

...«Калі вы хочаце стварыць сапраўднага чалавека, — пісаў вядомы савецкі педагог Антон Макаранка, — навучыце яго бачыць прыгожае ў людзях і ў прыдарожнай травінцы, зацікаўце ранішняй прахалодай і вясеннім дождж ыкам».

Так, немагчыма выхаваць дастойнага чалавека без выхавання ў ім любві да прыроды. Экалогія дапамагае зразумець тайны навакольнага свету, дае магчымасць зазірнуць за гарызонт невядомага. Экалагічная адукацыя дзіцяці ў нас у краіне, і ў Беларусі, у прыватнасці, пачынаецца з першых школьных гадоў. Малыя вывучаюць такі прадмет, як «Азнаямленне з навакольным светам». На гэтых уроках яны знаёмяцца з разнастайнымі з'явамі прыроды, вучацца вызначаць надвор'е па народных прыкметах, даведваюцца пра звычкі хатніх жывёл, з захапленнем слухаюць расказы настаўнікаў аб жыцці жывёл і раслін. Пасля многія дзеці запісваюцца ў гурткі юных натуралістаў, самастойна робяць гербарыі, заводзяць дома акварыумы і птушак. Атрыманыя ў школе веды з карысцю прымяняюцца дзятвой: яны вырошчваюць на дачных участках разам з бацькамі кветкі, гародніну, фрукты. Навука аб прыродзе дапамагае з ранняга дзіцячага ўзросту не толькі пазнаць навакольны свет, але і ўсвядоміць сваё месца ў ім.

«Азнаямленне з навакольным светам» з'яўляецца толькі першым крокам у школьным сістэматызаваным пазнанні юным чалавекам навакольнага асяроддзя. У далейшым іншыя прадметы бяруць на сябе функцыю экавыхавальніка — прыродазнаўства, батаніка, заалогія, потым біялогія, анатомія. Сёння ставіцца задача ўвесці ў бліжэйшыя гады ў старэйшых класах сярэдніх навучальных устаноў самастойную дысцыпліну — экалогію. Яна будзе ўяўляць сабой вынік тых навуковых ведаў па пытаннях пазнання і аховы прыроднага асяроддзя, якія вучань набывае на працягу ўсяго тэрміну навучання ў школе.

Вялікая роля ў экалагічным выхаванні належыць школьным навукова-практычным цэнтрам экалагічнай культуры. Адным з першых такі цэнтр быў створаны ў мінскай сярэдняй школе № 34 пад кіраўніцтвам настаўніка біялогіі Веры Рабушка. Тут школьнікам прапаноўваецца цыкл вучэбных прадметаў, шматлікія факультатыўныя заняткі, лекцыі. Але на гэтым вялікая работа ў справе экавыхавання не заканчваецца. Многае ў школе робяць самі дзеці: традыцыйнымі сталі конкурсы плакатаў на тэму «Ахоўвай прыроду!», кожную вясну і восень — на лепшы букет, за мінулы навучальны год старшакласнікі не адзін раз выступалі перад малодшымі вучнямі з расказамі аб ахове лесу, рэк, жывёльнага свету. Штогод праводзяцца канферэнцыі, у якіх удзельнічаюць вучні і настаўнікі суседніх школ. У гэтым сутнасць тэарэтычнай работы ў экацэнтры. Але тут вядзецца і значная практычная работа. Школьнікі робяць і вывешваюць дзесяткі шпакоўняў, кармушак для пту[illegible]к. Старшакласнікі прапол[illegible] палі ў суседніх сельскіх г[illegible]падарках, расчышчаюць звалкі смецця і прыбіраюць паваленыя дрэвы ў навакольных лясах.

Прыклад 34-й школы атрымаў свой працяг. [illegible]э адна сталічная школа [illegible]ключыла пагадненне з Мінскім леспрамгасам на правядзенне санітарнай экалагічнай ачысткі тэрыторыі. І цяпер кожнае лета вучні 4—6-х класаў працуюць у чэрвені па дагавору на ачыстцы лясоў. Гэта — летам, а зімой актыўна працуе клуб «Юныя лесаводы». Тут дзеці знаёмяцца з цікавымі з'явамі лесу, яго флорай і фаунай, вывучаюць метады і прыёмы пажаратушэння, санітарнага прарэджвання дрэў і кустоў. Клуб праводзіць канферэнцыі, штогадовыя конкурсы на лепшы букет сезона, выстаўкі мастацкай творчасці «Прырода і мы». Для сваіх работ дзеці выкарыстоўваюць саломку, дрэвы, сушаныя ягады, кветкі і г. д.

У сучасных школах працуе многа гурткоў аматараў прыроды, экалогіі. У іх займаюцца тысячы школьнікаў. Нярэдка ў гуртках з дзецьмі працуюць не толькі настаўнікі, але і вучоныя, выкладчыкі інстытутаў, спецыялісты сельскай гаспадаркі. Вельмі падабаецца школьнікам працаваць у лясніцтвах, дзе вучні самастойна праводзяць складаныя біялагічныя эксперыменты. Толькі за апошнія два гады яны ўдзельнічалі ў правядзенні 300 вопытаў, прычым больш за 100 вынікаў даследаванняў укаранёны ў практыку лясной гаспадаркі Беларусі. Школьнікі самі сеюць, прапалваюць, займаюцца абрэзкай саджанцаў, уборкай лясных масіваў, гэта значыць, на практыцы пазнаюць законы развіцця жывой расліннай прыроды і вучацца правільна яе берагчы. Па БССР агульны эфект ад практычнай работы вучняў у лясніцтвах за мінулыя два гады склаў больш за 20 тысяч рублёў. Вучні атрымліваюць пэўную зарплату, што з'яўляецца стымулюючым фактарам добрасумленных адносін да справы.

Акрамя гэтага, па шматлікіх пажаданнях дзяцей, бацькоў, нарэшце, па парадах вучоных і спецыялістаў па лесаахове на станцыі юных натуралістаў у Мінску была адкрыта так званая малая лясная акадэмія, якую ўжо скончылі амаль 350 маладых людзей. У акадэміі няма праблем з наборам слухачоў, тут працуе вялікая армія выкладчыкаў мінскіх вышэйшых навучальных устаноў, Акадэміі навук БССР, Навукова-даследчага інстытута лясной гаспадаркі. Цікава, што амаль 80 працэнтаў выпускнікоў гэтай установы выбралі ў далейшым для сябе прафесіі лесавода, агранома, біёлага і г. д.

Аднойчы па службовых справах я быў у гарадскім пасёлку Малая Бераставіца, што на Гродзеншчыне. Дырэктар мясцовай сярэдняй школы Леанід Панасевіч паказаў мне музей прыроды. Стварылі яго па крупінках, многае падарылі жыхары пасёлка, суседніх вёсак. Усе разумелі: музей прыроды патрэбны, асабліва моладзі, дзецям. Сабраная экспазіцыя атрымалася цікавай. Ёсць у музеі зрэзы верхніх слаёў глебы тутэйшых мясцін, выдатны гербарый, цэлая зала адведзена экалагічнай гісторыі малабераставіцкіх земляў. Тут жа ўзоры злакаў, збіраемых у раёне, выдатная карта ўсяго расліннага і жывёльнага свету захаду Беларусі. Асобы раздзел прысвечаны хлебу.

...Пак[illegible] я Бераставіцу восеньск[illegible]анкам. Работы ў палях яшчэ не закончыліся, і ў некаторых месцах побач з дарослымі можна было бачыць падлеткаў-памочнікаў. Што ж, праца і любоў да прыроды, да сваёй г[illegible]ай зямлі заўсёды іс навалі [illegible]эч.

**Сяргей АНУПРЫЕНКА.**

## «ПАТСДАМ»— «МІНСК»

Зусім іншым убачаць мінчане неўзабаве інтэр'ер рэстарана «Патсдам». Праект рэканструкцыі памяшкання прывезлі ў Мінск дырэктар патсдамскага трэста рэстаранаў Мікула Ульрых, дырэктар па рацыяналізацыі Вернер Хільтман, праектант Гюнтэр Якабі.

У сваю чаргу мінчане рыхтуюць прапановы па афармленню рэстарана «Мінск», які вось ужо дзесяць гадоў функцыяніруе ў Патсдаме.

— Самы папулярны рэстаран у нашым горадзе, — гаворыць пра «Мінск» Мікула Ульрых.—Размешчаны ён ў адным з найпрыгажэйшых куткоў Патсдама, на ўзвышшы. Будынак дамінуе над іншымі пабудовамі. Наведвальнікі з акна рэстарана могуць любавацца прыгожай панарамай горада.

— Рэстаран «Мінск»— лепшы ў Патсдамскім прадпрыемстве рознічнага гандлю,—дапаўняе таварыша Гюнтэр Якабі.—Вельмі добрая кухня, яна складзена ў асноўным з лепшых беларускіх нацыянальных страў, гатаваць якія нашы повары навучыліся ў Мінску.

Госці з ГДР у час сустрэч з работнікамі ўстаноў грамадскага харчавання Мінска расказалі калегам аб сакрэтах добра арганізаванага сервісу ў іх горадзе. Сябры дамовіліся абменьвацца дэлегацыямі повараў, вучыцца адзін у аднаго.







**II. Так, у гаспадарцы ўмеюць будаваць надзейна і прыгожа. Нядаўна закончылі Дом жывёлавода, пачалі гандлёвы цэнтр і Палац культуры. Ідзе рэканструкцыя сталовай. Больш як 20 сем'яў атрымалі ключы ад новых кватэр. Пакрылі асфальтам частку дарог. Тут разумеюць: перабудову на вёсцы трэба пачынаць з паляпшэння ўмоў жыцця і працы людзей.**

**...Апрануліся ў жоўтае адзенне бярозы і клёны. У высокім празрыстым небе чамусьці са спазненнем праплыў на поўдзень жураўліны клін. А ў пасёлку Лосічы пад вокнамі катэджаў па-летняму шчодра цвітуць кветкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: мясцовы Дом жывёлаводаў; урач-стаматолаг Ніна ЛЕБЯДЗІНСКАЯ; у калгасным бары можна выпіць шклянку духмянага чаю, сустрэцца з сябрамі.**

# КАРЫСТАЙЦЕСЯ МАГЧЫМАСЦЮ

Паважаная рэдакцыйная калегія!

Нядаўна я прачытаў у вашай газеце невялікую заметку пра маё апошняе наведванне рэдакцыі сёлета і пра мой адпачынак у роднай вёсцы ў Беларусі. Там гаварылася, што я амаль паўтара месяца пражыў як просты беларускі селянін. Гэта праўда. Менавіта так мне захацелася правесці час на Радзіме сёлета. Але наколькі я ведаю, што ў многіх людзей за мяжой, у тым ліку і ў некаторых суайчыннікаў, існуе такая думка, што магчымасці паездак у Савецкі Саюз і пераездаў там вельмі абмежаваныя, хачу дапоўніць гэты расказ.

Я ўжо многа разоў быў на Радзіме і наведаў самыя розныя мясціны. Раскажу, напрыклад, аб паездцы 1987 года. Тады я вырашыў адправіцца ў падарожжа па СССР на сваім аўтамабілі. Натуральна, усе дакументы афарміў загадзя праз савецкае консульства ў сябе дома. Спачатку я прыехаў у Беларусь і спыніўся на дзесяць дзён у кэмпінгу пад Мінскам. На працягу гэтага часу я меў магчымасць наведаць маіх сваякоў у вёсцы, агледзець славутыя мясціны беларускай сталіцы. Хачу яшчэ раз падзякаваць рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» за тое, што мне была дадзена магчымасць наведаць музей Янкі Купалы ў Вязынцы. Я даўно марыў пабываць на радзіме вялікага беларускага паэта, і вось гэтая мара здзейснілася. Акрамя экскурсій, я добра адпачыў на Мінскім моры і ўвогуле *прыемна правёў гэтыя* дні з маімі роднымі. Затым я адправіўся далей, узяўшы з сабой з Мінска сваю пляменніцу. Першы прыпынак на два дні быў у Смаленску, дзе мы пазнаёміліся з гістарычнымі помнікамі гэтага старажытнага рускага горада. Правялі два дні ў Маскве, дзе таксама пабывалі ў многіх гістарычных месцах, але, на жаль, не змаглі трапіць у Маўзалей У. І. Леніна, таму што ён па нейкіх прычынах быў закрыты. Ад Масквы мы паехалі на поўдзень. Па дарозе рабілі кароткія прыпынкі ў розных гарадах. Наведалі музей бітвы на Курскай дузе. У такіх месцах мне, як пажылому чалавеку, заўсёды ўспамінаюцца страшныя гады вайны, усе яе жахі, і хочацца крычаць людзям: «Рабіце ўсё, каб яна ніколі не паўтарылася!» Канчатковай мэтай нашай паездкі была Ялта. Тут мы пражылі амаль тры тыдні ў камфартабельнай гасцініцы, вядома, адпачывалі на цудоўных чарнаморскіх пляжах.

Наш шлях назад ляжаў праз Кіеў, які пакінуў ў мяне вялікае ўражанне сваёй прыгажосцю і слаўнай гісторыяй. Закончылася наша падарожжа ў Брэсце, дзе кожны прыезджы абавязкова наведвае помнік мужнасці, стойкасці і гераізму савецкіх воінаў — Брэсцкую крэпасць. Як бачыце, я змог аб'ехаць на ўласным аўтамабілі амаль усю еўрапейскую частку краіны.

А ўспомніў я аб усім гэтым і напісаў вам таму, што часта чую размовы аб усякіх абмежаваннях у паездках па СССР і апасеннях людзей. Баяцца няма чаго. Проста трэба загадзя прадумаць свой маршрут і аформіць неабходныя дакументы ў бліжэйшым дыпламатычным прадстаўніцтве. Наша Радзіма, Савецкі Саюз, прадастаўляе самыя шырокія магчымасці для адпачынку і турызму. Выкарыстоўвайце іх, і вы не пашкадуеце.

**Браніслаў АЎГУСЦІНОВІЧ.**
ФРГ.

# ДАВАЙЦЕ ЎСПОМНІМ ГІСТОРЫЮ

Я з цікавасцю прачытаў апублікаваныя ў вашай газеце пісьмы землякоў з розных краін з іх развагамі аб перабудове ў Савецкім Саюзе. Хачу выказаць і сваю думку наконт гэтага.

Дык вось, пра перабудову. У першую чаргу, хачу падкрэсліць, што не збіраюся нікога і нічога крытыкаваць. Я лічу, што не маю на гэта ніякага права. Жыву я ў Вялікабрытаніі і на Радзіме рэдкі госць. А дапамагчы Радзіме магу толькі маральна, добрым словам і сваім удзелам у пракладванні моста паміж Савецкім Саюзам і капіталістычнымі краінамі. Я маю на ўвазе свае пераклады савецкіх патэнтаў для розных арганізацый, а таксама пераклады навуковых прац. Звычайна, калі размова ідзе пра перабудову чаго-небудзь, то маецца на ўвазе, што нешта павінна быць перабудавана, альбо яно дрэннае, альбо ўстарэла і ўжо не адпавядае свайму прызначэнню. Я ўпэўнены, што гэты фактар і з'яўляецца адной з прычын супраціўлення перабудове, паколькі заўсёды ёсць прыхільнікі таго, каб што-небудзь старое і звыклае захаваць. Калі б я кіраваў гэтым фактарам, то таксама быў бы супраць. Думаю, што ўсё ж прычына не ў гэтым. Тут ёсць больш агульны прынцып. Цытую за «Голасам Радзімы» Мікіту Майсеева: «Усякая арганізацыя, няважна, наколькі яна дасканалая і як бы добра ні адпавядала свайму першапачатковаму заданню, раней ці пазней будзе патрабаваць карэннай перабудовы».

І ўсё ж трэба заўсёды ведаць, што менавіта перабудоўваць. Калі гутарка ідзе аб доме, то гаспадар загадзя аб усім падумае, перш чым узяцца за работу. Ну а калі гаварыць пра краіну, то трэба падумаць не раз і не два. Давайце ўспомнім гісторыю. Вядома, што першыя паслярэвалюцыйныя гады былі суровымі. Існавала контррэвалюцыя, з якой ішла барацьба не на жыццё, а на смерць. У такіх умовах нельга было даць поўную свабоду ўсім, таму што імкненні і мэты прадстаўнікоў розных класаў былі рознымі. Таму і патрэбна была дыктатура пралетарыяту. Гэта была дэмакратыя не для ўсіх, але для абсалютнай большасці насельніцтва. На жаль, выйшла так, што некаторыя людзі сталі выкарыстоўваць сваё службовае становішча для асабістых карыслівых мэт. З сучаснага пункту гледжання, аказваецца таксама, што не ўсё дзяржаўнае планаванне мела здаровую базу. Ёсць і яшчэ шэраг праблем, ад якіх трэба пазбавіцца.

**Мікалай ЯНУШЭВІЧ.**
Вялікабрытанія.

## У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»

**Гэта ўжо традыцыя: праязджаючы праз Мінск, нашы землякі, якія жывуць у Заходняй Еўропе, затрымліваюцца тут. Часам, разлічваючы на нашу дапамогу ў нейкай сваёй справе, а часцей за ўсё спыняюцца на дзень-два, каб сустрэцца з сябрамі, яшчэ раз наведаць мясціны, што запомніліся нечым адметным. Заходзяць яны ў Таварыства «Радзіма» або ў рэдакцыю «Голасу Радзімы», каб падзякаваць за газеты і кніжкі, што мы ім пасылаем, каб расказаць аб сваіх справах, хатніх і грамадскіх.**

**Ганна Капіца вярталася з Украіны ў Бельгію ў горад Сінці-Клас якраз напярэдадні Кастрычніцкіх святаў. На вуліцы было ўжо холадна, дзьмуў пранізлівы вецер.**

— Не думала, што так загасцююся. Цёплых рэчаў з сабой амаль не ўзяла. Але ў Мінску ў мяне знаёмыя. Такія ветлыя людзі. Запрасілі пагасціць у іх, апранулі мяне. Дома сябе адчуваю ў Мінску.

Я вяртаюся ў Бельгію, а наш добры сябар, стары камуніст, кіраўнік Таварыства бельгійска-савецкай дружбы з горада Сінці-Класа Карл Маас едзе ў Маскву. Яго часта запрашаюць сюды на святы, і ён ганарыцца гэтым. У Бельгіі становіцца ўсё больш людзей, якія прыхільна адносяцца да Савецкага Саюза, да перабудовы, да лідэра краіны Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Я сама бачыла лічбу: прададзена 80 тысяч экземпляраў кнігі Гарбачова «Перабудова і новае мысленне» на фламандскай і французскай мовах. Гэту кнігу можна знайсці ў нас амаль у кожнай бібліятэцы.

І я, і мой муж Ашэль, і мае сяброўкі шчыра вітаем перабудову, публічнасць, дэмакратызацыю грамадства. Засмучае нас толькі тое, як абыходзіцеся вы цяпер са сваёй гісторыяй, не такім далёкім мінулым. Гэта добра, што партыя мела мужнасць прызнацца ў сваіх памылках, спрабуе выправіць іх, развянчаны культ асобы. Аднак, калі ўвесь час упарта паўтараць, што ў краіне за 70 гадоў амаль не было перамог, а адны страты, то знойдуцца і легкаверныя, якія і сапраўды будуць так думаць.



А ў нас, даваенных дзяўчат, зусім іншай засталася ў памяці Радзіма. Жыццё ў фашысцкай няволі, доўгія гады на чужыне зрабілі нас такімі відушчымі. Мы зразумелі, што сапраўды шчаслівымі і свабоднымі былі толькі ў сваёй краіне. Дома мы адчувалі сябе асобамі, ад якіх залежалі здабыткі ўсіх, мы былі гаспадарамі. І цяпер, я думаю, вы самі не разумееце, якім багаццем валодаеце. Дружба, добразычлівасць, прыязныя адносіны паміж людзьмі больш за ўсё ўражваюць і дзяцей, і дарослых, якія прыязджаюць у Савецкі Саюз з-за рубяжа. Так і хочацца сказаць: рабіце ўсё, каб не страціць гэтых якасцей.

**Ганна КАПІЦА.**

# АДНА ВЯЛІКАЯ СЯМ'Я

У рэдакцыю газеты «Голас Радзімы» ў Мінску, БССР.

Ад савецкіх грамадзян, хто пражывае ў Буэнас-Айрэсе ў Аргенціне, харыстаў хору клуба імя М. Астроўскага «Рассвет».

Перш за ўсё мы хочам праз вас перадаць прывітанне нашай вялікай многанацыянальнай Радзіме і пажадаць ёй міру і працвітання! Вядома, мы з цікавасцю сочым за ўсім, што адбываецца ў Савецкай краіне, разам з вамі радуемся вялікім пераменам — дэмакратызацыі і публічнасці ў жыцці грамадства. Адначасова нас трывожаць некаторыя моманты, у прыватнасці, цяпер у заходняй прэсе вельмі многа пішуць аб нацыянальным пытанні ў СССР. Вось мы і вырашылі накіраваць вам гэтае пісьмо і падзяліцца прыкладам таго, як могуць супрацоўнічаць людзі розных нацыянальнасцей.

Наша калонія мае вялікую гісторыю. Яшчэ ў пачатку стагоддзя многія рускія, украінцы, беларусы, палякі былі вымушаны ратавацца ад прыгнёту царскага самадзяржаўя, аўстрыйскага імперыялізму і пакідаць родныя мясціны. Затым была акупацыя буржуазнай Польшчай заходніх абласцей Украіны і Беларусі, тады таксама паехала многа сямей у далёкую Паўднёвую Амерыку. Большасць гэтых бежанцаў пасялілася ў Аргенціне. Многія з нас жывуць у горадзе Буэнас-Айрэсе і яго навакольлі. Шмат суайчыннікаў і ў іншых правінцыях. На чужыну яны прывезлі і сваю культуру, і свае песні. А спяванне прыцягвае ўсіх, арганізоўвае розных людзей у адну вялікую сям'ю. У Аргенціне было і ёсць многа хораў, у якіх удзельнічаюць людзі розных нацыянальнасцей. Такі і наш хор «Рассвет». Ён арганізаваўся восем гадоў таму назад пры клубе імя М. Астроўскага. Спачатку ў ім было трыццаць восем чалавек, цяпер пяцьдзесят—рускія, украінцы, беларусы, палякі і іншыя нацыянальнасці. Мы ўсе добраахвотныя харысты, выконваем свае абавязкі дысцыплінавана. На рэпетыцыі з'яўляемся заўсёды і ў час, нягледзячы на тое, што нам даводзіцца несці значныя расходы, каб дабрацца на месцы рэпетыцый і канцэртаў.

Спяваем мы песні рускія, украінскія, беларускія і яшчэ мясцовыя. Ні нам, ні нашым слухачам не перашкаджае, што мы людзі розных нацыянальнасцей. Наша агульная справа аб'ядноўвае нас. Агульныя справы і мэты ёсць і ў савецкіх людзей розных нацыянальнасцей. І для таго, каб выконваць іх разам, патрэбны дружба і адзінства ўсіх савецкіх народаў. Каму выгадна ўбіваць клін паміж імі? Тым, хто не хоча, каб наша Радзіма мацнела, працвітала, дабівалася прагрэсу ва ўсіх галінах.

Мы шчыра вітаем супрацоўнікаў газеты «Голас Радзімы» і дзякуем за вашу плённую працу, за тыя артыкулы, якія мы з цікавасцю чытаем тут. Вітаем нашу Радзіму за перабудову і публічнасць. Жадаем ёй у гэтым поспехаў. Выказваем вялікую падзяку Міхаілу Сяргеевічу Гарбачову за стойкасць і адвагу ў новай палітыцы на міжнароднай арэне і на нашай Радзіме.

**Ад імя ўдзельнікаў хору «Рассвет» старэйшыя харысты Д. ЯФРЭМАЎ і Г. СВІБОВІЧ.**
Аргенціна.

# ВІНАВАТЫ КУЛЬТ АСОБЫ

Нядаўна мы, замежныя суайчыннікі, разам з Радзімай адзначалі яе самае вялікае свята—гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гістарычна кароткі перыяд пасля рэвалюцыі быў насычаны многімі важнымі для краіны падзеямі. Былі сярод іх радасныя, былі і сумныя, былі дасягненні, але былі і памылкі. Нас вельмі радуе, што цяпер гэтыя памылкі, як гаворыцца, усёй грамадой пачалі выпраўляць.

Мы з цікавасцю сочым за ходам перабудовы на Радзіме. У нашых газетах пішуць і гавораць па радыё, што ідзе вялікая работа ва ўсіх сферах вашага грамадства, якая накіравана на паляпшэнне жыцця савецкага народа. Па-мойму, вельмі добра зрабілі, што цяпер можна браць у арэнду зямлю, ёсць сямейныя і калектыўныя падрады, сталі развівацца розныя кааператывы. Упэўнены, што гэтыя крокі вельмі хутка дадуць вынікі. Пакуль новага ў іх фактычна няма, гэта толькі зварот да ленінскай эканамічнай праграмы, якая ўжо была праверана ў паслярэвалюцыйныя гады. Я добра помню той час. Тады прамысловасць і сельская гаспадарка былі ў цяжкім становішчы, многія фабрыкі і заводы былі разбураны. І за нейкія тры гады ўсё было адноўлена. Я сам працаваў і бачыў, як стала добра жыць. Былі сельскагаспадарчыя кааператывы. Можна было набываць за выплату коней, насенне, сельгасмашыны, за вельмі невялікія працэнты давалася пазыка на развіццё якой-небудзь вытворчасці. Словам, магу сказаць без перабольшвання: такое было жыццё ў нас у Савецкім Саюзе, якога не было ні ў адной іншай краіне. На жаль, сталінізм усё гэта разбурыў. Гвалтоўная калектывізацыя загубіла многіх добрых гаспадароў. А колькі яшчэ невінаватых людзей—вучоных, ваенных, інжынераў і творчай інтэлігенцыі—сталі ахвярамі культу. Можа быць з-за гэтага і страты ў вайне былі такімі вялікімі. Калі б поўнасцю выконвалася ленінская палітыка, то можа і самой вайны не было б.

Сотні тысяч нашых людзей не вярнуліся на Радзіму пасля вайны. У гэтым таксама вінаваты культ асобы. Таму я вітаю перабудову, вітаю працэсы дэмакратызацыі і публічнасці. Трэба ведаць гісторыю і вучыцца на дапушчаных памылках, каб іх не паўтараць.

**Міхаіл МАДОРНЫ.**
ФРГ.

# „EL ARTE ES EL ESPEJO DE LA VIDA DEL PUEBLO“

**TRES PREGUNTAS A LOS LIDERES DE LAS ASOCIACIONES DE ARTISTAS, EN VISPERAS DEL SEPTUAGÉSIMO ANIVERSARIO DE LA REPÚBLICA**

*1. Si miramos el multisecular camino que recorrió el arte nacional bielorruso, según su opinión ¿en qué se han destacado los últimos siete decenios transcurridos desde la fundación de la República Socialista Soviética de Bielorrusia?*

*2. ¿Qué temas, gentes y hechos han quedado reflejados de manera más completa en la obra de sus colegas, y por qué?*

*3. ¿Cuáles son los problemas que preocupan hoy al arte, la política y la vida de la sociedad?*

**La escultora, Svetlana GORBUNOVA, primera secretaria de la Directiva de la Asociación de Pintores de la República Socialista Soviética de Bielorrusia:**

— Hoy nosotros valoramos nuestros logros de manera muy crítica. Incluido el arte. Todos los fenómenos los denominamos abiertamente por su nombre y aún así, a pesar de todos, nuestros errores, nadie puede impugnar el hecho de que fue precisamente el socialismo que sacó a nuestro pueblo de la época de analfabetismo total y permitió crear una sociedad, en la que el arte no es un privilegio de algunos, sino patrimonio de todos.

Nosotros hablamos del multisecular camino que recorrió el arte nacional bielorruso. Pero, preguntémonos: ¿por qué durante muchos siglos ha existido sólo como arte popular y por qué, por ejemplo, nuestras artes plásticas de antaño son tan pobres en nombres?

El asunto está en las condiciones históricas concretas. Los bielorrusos no tenían su sistema estatal, estaban sometidos a la opresión nacional y social, y las personas de talento, procedentes del pueblo, no podían desarrollar y consolidar ese talento en el campo nacional. Al fundarse la república soberana, se puso fin a este proceso, nefasto para la nación. El estado socialista garantizó a la gente las oportunidades indispensables para el desarrollo creador.

Hoy, como norma, la persona en verdad talentosa puede aplicar sus cualidades. Si un niño manifiesta cierta vocación, puede ir a estudiar, en vez de una escuela común, a una escuela especializada, donde, junto con el cultivo de las materias de formación general, le impartirán con detalles las artes plásticas. Hace 25 años, para los niños especialmente talentosos, se abrió en Minsk la escuela-internado de artes de la república, en la cual estudian y viven más de 400 educandos de diferentes partes, e incluso de los más apartados rincones de Bielorrusia. Muchos de ellos ingresan luego al Instituto de Teatro y Artes o a institutos de educación secundaria y se transforman en artistas profesionales. Nuestra asociación cuenta hoy con más de 550 profesionales y ya hay 150 personas que se han incorporado a la asociación juvenil.

2.3. Las dos últimas preguntas me parecen semejantes, por ello de inmediato doy respuesta a las dos. Si se visita sistemáticamente nuestras exposiciones, no se puede dejar de notar que nos inclinamos cada vez más hacia la vida rural, seguramente porque casi todos los pintores bielorrusos son artistas provenientes de las aldeas. A propósito, por eso también nuestros paisajes se distinguen por una resonancia especialmente poética, y se nota que han sido pintados por personas que comprenden con sutileza a la naturaleza.

Un lugar especial en las artes plásticas de Bielorrusia lo ocupa el tema de la Gran Guerra Patria de los años 1941-1945. Entre mis colegas quizás no hay ninguno que lo haya soslayado. Pero, si para los primeros diez años de la postguerra fueron características las escenas bélicas, más tarde el tema de la guerra empezó a tomar nuevos visos. En las mejores obras se muestra como una lucha general, la de toda la humanidad, es la lucha del bien contra el mal, y se revela la dignidad y la elevación de la naturaleza humana. Baste recordar "Cifras en el corazón", la serie de obras que recorrió todo el mundo y en la cual, en 13 lienzos, Mijaíl Savitski, el autor, reflejó la tragedia sufrida por él en un campo de concentración fascista. Él mismo valor tiene su no menos conocido tríptico "Agressia" (Agresión). De hecho, en nuestro arte, así como en la literatura, este tema se transformó de militar en antimilitarista, lo que se nota, particularmente, en los trabajos de los pintores jóvenes.

La imagen de Lenin ha econtrado una talentosa encarnación en la pintura, la gráfica y la escultura. Estoy convencida de que el genio leninista, grande y polifacético, va a inspirar todavía a muchas generaciones de pintores.

En los últimos 15 años hemos vuelto más a menudo, en nuestro arte, al pasado histórico de nuestro pueblo, a la é[illegible] medieval, en la que vivier[illegible] crearon los primeros impresores bielorrusos Francisco Skorina y Simón Budni, el poeta humanista Nikolái Gussovski y el filósofo Kazimir Lischinski. No mengua el interés por la fig[illegible] de Konstantín Kalinovski [illegible] dirigió, en 1863, el levantamiento de liberación nacional del pueblo bielorruso contra el zarismo. Una gran cantidad de obras está dedicada a Yanka Kupala y Jakub Kolas, clásicos de nuestra literatura.

El rasgo distintivo y característico de las obras actuales es su énfasis publicitario. La perestroika puso en movimiento a todo el país, en todos los estratos de la sociedad se han iniciado cambios impetuosos y, para reflejar de manera operativa los procesos que están ocurriendo, el pintor recurre al pincel del publicista.

Una de las últimas exposiciones, que ha tenido gran resonancia, se denominó "Chernóbil y chórnaya bil" (Chernóbil y el suceso negro). En ella se expusieron unas 50 obras de pintura y gráfica, en lo fundamental de la generación jóven. La mayor parte son cuadros-reportajes de la central misma de Chernóbil — del desdichado cuarto bloque — y de los lugares que sufrieron perjuicios debido a este accidente.

Cabe esperar, con toda razón, que la nueva realidad, en la cual nos ha correspondido vivir, hará aparecer obras de talento que reflejen nuestra época.

**El compositor, Igor LUCHENOK, primer secretario de la Directiva de la Asociación de Compositores de la República Socialista Soviética de Bielorrusia:**

1. Pienso que nuestros descendientes nos estarán agradecidos, ante todo, porque hemos sabido conservar el riquísimo folklor nacional y no lo dejamos perecer junto con sus portadores. Hoy, cuando en las aldeas aún cantan canciones antiguas, para nosotros tal vez sea difícil apreciar merecidamente el significado de esta gran tarea.

Gente de muchas generaciones se ha dedicado a recopilar, investigar y transcribir el folklor. A nivel gubernamental se adoptó un programa especial financiado por el Estado, y a raíz de ello tenemos hoy una serie de 30 tomos del arte popular bielorruso, preparada y editada por la Academia de Ciencias de la república. En estos voluminosos tomos se ha recopilado, además del folklor musical y las canciones, todos los géneros: leyendas, baladas, cuentos, proverbios... Sin embargo, las canciones populares componen la parte fundamental de la serie. Más de 15 mil textos, cuya mayor parte tiene sus notas, son verdaderamente un patrimonio invalorable no sólo de la cultura bielorrusa, sino también de toda la cultura eslava.

Y quisiera señalar dos cosas más. Primero, la creación de la escuela profesional de compositores que, 70 años atrás, prácticamente no existía. En el Conservatorio Estatal de Bielorrusia y en diez escuelas secundarias de música se capacitan los futuros compositores profesionales. Hoy tenemos cuatro filarmónicas: una en la capital, y las otras en tres centros provinciales; tenemos además varias orquestas sinfónicas profesionales y el Coro Popular de la República Socialista Soviética de Bielorrusia...

Y segundo, que Bielorrusia dispone de un bien organizado sistema para iniciar en la música a la joven generación. Esto es, hay más de 500 escuelas musicales, múltiples círculos y talleres, clases de música en las escuelas de enseñanza general, ciclos de conferencias y conciertos para los niños y los jóvenes, y mucho más. Un papel esencial en la educación musical de la juventud lo cumple la actividad artística de aficionados. En nuestra república de diez millones de habitantes funcionan ahora 18 orquestas de variedades y orquestas sinfónicas de aficionados. 381 orquestas de instrumentos populares, unos 2.500 conjuntos vocalistas instrumentales y 8.500 conjuntos corales. Pero, hace falta decir honestamente que el grado de calidad de todo este trabajo requiere hoy un mejoramiento radical, porque ya no responde a las exigencias espirituales de la gente.

2. El interés por la temática moderna y el apoyo en las canciones populares es algo que ha sido y seguirá siendo lo característico para la creación de los compositores bielorrusos. Nuestro arte musical, según mi opinión, es atractivo para el oyente extranjero precisamente porque es sumamente nacional y realista.

Las obras de los escritores bielorrusos son, como norma, la fuente de la imagen. De los clásicos es, a menudo, la poesía de Yanka Kupala y de Maxim Bogdánovich. Entre los autores contemporáneos se da preferencia al prosista Vasil Bíkov y a los poetas Nil Guilévich y Grigori Borodulin. En los últimos años, atraen la atención de los compositores los relatos románticamente atractivos de Vladimir Korotkévich sobre el tema histórico.

Naturalmente, no nos limitamos solamente al material bielorruso. Nuestros compositores están familiarizados con la prosa de León Tolstoi y Antoine de Saint-Exupery, la poesía Alexandr Pushkin y Tarás Shevchenko, y las obras de William Shakespeare, Robert Burns y García Lorca...

3. Hoy, la música, en el mismo grado que el cine, ha llegado a ser la variedad más popular del arte. Se ha ampliado significativamente el auditorio y ha aumentado la cantidad de canales de su difusión. Si a mediados de los años 60 la música, entre las variedades del arte, ocupaba el 4° ó 6° lugar, en la segunda mitad de los años 70 ocupaba el 2° y a comienzos de los 80, ya el 1°.

Pero, me preocupa que en la juventud haya bajado notablemente el interés por la música "seria". Ocurre que las funciones de un mediocre grupo rock reunen un mayor auditorio que los conciertos de música clásica. Muchas investigaciones de nuestros sociólogos evidencian, que determinada parte de la gente joven manifiesta ignorancia musical, [illegible]usto artístico bajo y un enf[illegible] no crítico en la valoración de las obras musicales.

En una palabra, una de nuestras tareas actuales más importantes consiste en elevar la educación[illegible]ical a un nivel cualitativamente superior.

**Nikolái EREMENKO, actor, presidente de la Directiva de la Asociaciòn de Artistas de Teatro de Bielorrusia:**

1. Hoy existen 18 teatros profesionales. Setenta años atrás no había ni uno solo. Naturalmente, antes de la revolución también se hicieron intentos de crear el teatro nacional profesional, pero todos los esfuerzos de la intelectualidad progresista chocaban inevitablemente contra el muro infranqueable de la política chovinista de la autocracia zarista.

En el año 1920, en Minsk, surgieron casi al mismo tiempo los dos primeros teatros. Y aunque en Bielorrusia, así como en todo el país, reinaba la ruina, el gobierno, con todo, supo encontrar los medios para el apoyo financiero de los pioneros. Desde aquella época, la preocupación por el desarrollo del arte teatral fue parte de la política estatal en el campo de la cultura. Es que también hoy, el Estado asume una parte significativa de los gastos del teatro ya que aproximadamente la mitad de su presupuesto se cubre con subsidios estatales. Es gracias a esto que en la URSS el costo de las entradas a los teatros es el más bajo, siendo así accesibles a todo el mundo. Es cierto que no siempre se logra comprarlas si uno no se molesta de antemano, por cuanto muchos espectáculos se dan con un lleno total. Anualmente los teatros de la república son frecuentados por más de tres millones de personas.

También tuvo una gran importancia para el teatro nacional la apertura del Instituto Estatal de Teatro y Artes de Bielorrusia abierto en Minsk, en 1945, al terminar la Segunda Guerra Mundial. En los subsiguientes años surgió en la república toda una pléyade de talentosas personalidades del teatro, que hoy trabajan con éxito en la escena bielorrusa. Ellos son los directores de escena Raievski, Mazinski, Masliuk y Lutsenko, y el coreógrafo jefe del Teatro de Opera y Ballet Elizariev... Tenemos varios actores, tanto de la generación adulta como de la joven, que serían un orgullo para la compañía de cualquier teatro.

2. El único criterio según el cual nuestros teatros seleccionan las obras para representarlas, independientemente de que ésta fuera escrita treinta ó 300 años atrás, es la actualidad de los temas y su importancia para nuestro espectador. Esto es en respuesta a la segunda parte de la pregunta, por qué uno u otro espectáculo aparece en nuestra escena.

Ahora acerca de lo que nosotros presentamos.

La cartelera teatral bielorrusa es muy variada; sin falta están presentes la obra clásica, ya sean bielorrusas, rusas ó universales, así como las obras de autores extranjeros contemporáneos y aproximadamente dos tercios de las funciones exhiben la dramaturgia soviética contemporánea. En diferentes épocas, los teatros han recurrido a las piezas de los escritores bielorrusos Yanka Kupala, Andréi Makainok, Konstantin Gubariévich, Nikolái Matukovski, Ales Petrashkévich... Se han puesto en escena interesantes espectáculos según las novelas típicas de Iván Melezh, los relatos de Vasil Bíkov y Ales Adamóvich. No se retiran de la escena las piezas de Máximo Gorki y Alexandr Ostrovski, de Nikolái Gógol y Antón Chéjov... De los clásicos extranjeros los más populares son, quizás, William Shakespeare, Federico Schiller y Bertolt Brecht.

Los colegas extranjeros a veces nos reprochan que muy a menudo recurrimos a los hechos de la Segunda Guerra Mundial. No hay nada que hacer. Este tema es como si estuviera "programado genéticamente" en nosotros y en nuestros hijos. En Bielorrusia no hay familia que no haya sufrido a causa de la agresión fascista y cada uno perdió a algún pariente o íntimo. Por eso, junto con las obras de los escritores de la generación adulta, que por experiencia propia conocieron la que es la guerra —Bíkov, por ejemplo—, han aparecido piezas de los jóvenes, de aquellos que nacieron después de la guerra y en sus obras relatan lo que su generación piensa de aquella. Un éxito especial le cayó en suerte al joven dramaturgo de Minsk Alexei Dúdariev, autor de la pieza "Riadovíe" (Los soldados), que fue puesta en escena, además de Bielorrusia, también en muchos otros teatros de la Unión Soviética.

No pierden interés, ni los artistas teatrales ni los espectadores, por la historia de Bielorrusia. Son bien aceptados los espectáculos que reflejan las dificultades y los conflictos de la vida moderna. Destacar aquí algo concreto es difícil; hasta tal punto es diversa nuestra realidad, hasta tal punto son diversos, también, los temas a que recurren nuestros teatros, aunque los últimos tiempos se ha destacado mucho la problemática ecológica.

3. Actualmente el espectador requiere que el teatro muestre con mayor agudeza y dinamismo aquellos rápidos procesos relacionados con la democratización de la sociedad que ocurren hoy en el país. Sin embargo, por ahora hay pocos espectáculos de esa índole en el repertorio de los teatros bielorrusos. La causa principal, según mi opinión, es el afán por una dramaturgia moderna de alto nivel. Aunque mucho depende, naturalmente, también del teatro mismo. El también necesita la perestroika. Con este objetivo, en algunos de nuestros grupos teatrales se lleva a cabo un experimento llamado a comprobar lo que en la actividad teatral tiene sentido conservar y lo que hay que reorganizar y cambiar por lo nuevo. Así es que también el teatro atraviesa ahora por un período de cambios.

ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН

# САКРЭТЫ ПАД ЗАМКОМ НЕ ТРЫМАЕМ,

## АБО ЯК МЫ ПРАЦУЕМ НА ПЕРАБУДОВУ

**Усё прыйшло ў рух у савецкім грамадстве з пачаткам перабудовы: ламаюцца старыя стэрэатыпы мыслення, кардынальна мяняюцца метады кіравання гаспадаркай, ідзе пошук аптымальных шляхоў павышэння эфектыўнасці грамадскай вытворчасці. Не без цяжкасцей, але няўхільна паглыбляюцца працэсы дэмакратызацыі нашага жыцця. Знікаюць «белыя плямы» гісторыі, вяртаюцца несправядліва забытыя імёны, кнігі, творы. Мы асэнсоўваем пройдзены краінай нялёгкі шлях, на якім былі ўзлёты і грандыёзныя дасягненні, а таксама нечаканыя падзенні і горкія страты. Бадай, нідзе ў свеце зараз не чытаюць столькі, як у Савецкай краіне.**

**Рэзка ўзрос грамадскі інтарэс да гістарычнай літаратуры, архіўных матэрыялаў. За апошнія гады многія выданні былі пераведзены з фондаў спецыяльнага захоўвання ў агульныя, вядзецца работа па рассакрэчванню архіўных матэрыялаў. Спадзяёмся, што ўзятыя нашым карэспандэнтам Т. АНТОНАВАЙ інтэрв'ю дапамогуць вам лепш уявіць сабе, як адбываецца гэты працэс у Беларусі.**

**Аляксандр МІХАЛЕНЯ, дырэктар Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.**

*— Аляксандр Гаўрылавіч, як ідзе працэс рассакрэчвання ў галоўным кнігасховішчы рэспублікі?*

— Нагадаю, што наша бібліятэка — буйнейшая навуковая бібліятэка рэспублікі, дзяржаўнае сховішча нацыянальнай літаратуры, навуковы і метадычны цэнтр у галіне бібліятэказнаўства, бібліяграфіі і кнігазнаўства. Цяпер у яе аналах амаль 7 мільёнаў друкаваных адзінак.

Аднак да нядаўняга часу наш чытач не мог у поўнай меры выкарыстаць усё гэта багацце. Дакументы архіваў, сведчанні відавочцаў падзей мінулага, надзейна схаваныя ад людскога вока рознымі надуманымі цыркулярамі, бюракратычнымі загадамі, штучнымі перашкодамі, уяўлялі сабой сакрэт, аб які спатыкалася любая спроба аднавіць праўдзівую гісторыю развіцця грамадства. І вось цяпер мы нібы ўдыхнулі свежага паветра. Замест «забараніць», «схаваць» — «забяспечыць даступнасць інфармацыі», «давесці да шырокіх колаў чытачоў». З боку ўрада, дзяржавы гэта найвялікшы акт гуманізму.

Яшчэ летась у нас пачалася перадача літаратуры ў фонды для агульнага карыстання. Працэс «рассакрэчвання» ідзе поўным ходам. Усё больш і больш крыніц перадаецца ў адкрытыя фонды, што дае магчымасць шырокаму колу чытачоў пазнаёміцца з падзеямі мінулага праз першакрыніцы.

За 1987 і да лістапада 1988 года перададзена больш як 10 тысяч айчынных і замежных кніг і часопісаў, у тым ліку 3 700 кніг на рускай, беларускай і ўкраінскай мовах, выдадзеных у 20—40-я гады. Амаль тысяча кніг і больш чым 6 тысяч часопісаў на англійскай, нямецкай і французскай мовах. Вернута ў агульныя фонды 190 назваў беларускіх выданняў.

У бібліятэцы арганізавана выстаўка з твораў, якія перададзены ў фонды агульнага захоўвання. Увагу прыцягваюць працы М. Бухарына «Тэорыя гістарычнага матэрыялізму», «Сусветная гаспадарка і імперыялізм», «Азбука камунізму», А. Рыкава «Чарговыя чытанні міжнароднай і ўнутранай палітыкі», Д. Пятроўскага «Капіталізм і сацыялізм», Я. Яраслаўскага «Падручнік палітграматы для сяла», Х. Ракоўскага «Міжнароднае становішча», У. Карпінскага «Барацьба за сацыялізм», А. Гурэвіча «Узнікненне і развіццё Камінтэрна».

Сярод беларускіх твораў — зборнікі «Савецкая Беларусь» (выдадзены ў 1938 годзе), «Заходняя Беларусь» (1927 год), «Помнікі барацьбітам, загінуўшым за вызваленне Беларусі», «Матэрыялы да геаграфіі і статыстыкі Беларусі» ў двух тамах (1928 — 1929 гады), «Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці» (1938 год), а таксама зборнікі артыкулаў «Аб падрыўной дзейнасці фашысцкіх разведак у СССР і задачах барацьбы з ёй» (1937 год), «Паэты народаў СССР (1938 год). Вершы Андрэя Александровіча.

Масаваму чытачу адкрыты замежныя выданні. Загадам Галоўліта ў агульныя фонды будуць перадавацца кнігі, выдадзеныя да 1985 года, а таксама ўсе замежныя часопісы, што выйшлі ў 1988 годзе.

Тых, хто карыстаецца паслугамі аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў, прывабяць кнігі «Бальшавікі. Дакументы па гісторыі бальшавізму з 1903 па 1916 гг. былога ахраннага аддзялення», Л. Каменева «Гісторыя партыі камуністаў у Расіі і У. І. Ленін», «Мемуары. Дзянікін, Юдзеніч, Урангель» (выдання 1927 года) і многія-многія іншыя.

**Марына ВЫСОЦКАЯ, намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністраў БССР, старшыня Міжведамаснай камісіі.**

*— Першага лістапада завяршыла сваю работу Міжведамасная камісія. Якія вынікі яе дзейнасці?*

— Спачатку трохі пра саму Міжведамасную камісію. Яна была створана ў Беларусі год назад. Увайшлі туды прадстаўнікі Галоўліта, Міністэрства культуры, Дзяржкамвыда, Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна і Акадэмічнай імя Я. Коласа. Мы працавалі ў цесным узаемадзеянні.

Спецыялісты пераглядзелі гару літаратуры з закрытых спісаў. А там у нас значылася 388 назваў рэспубліканскіх выданняў. 315 з іх на сёння адкрыты для ўсеагульнага карыстання. (Дарэчы, 45 выданняў з закрытых спісаў у фондах не былі выяўлены). Што гэта за літаратура? Іншым разам, пераглядаючы той ці іншы твор, мы не маглі зразумець, што менавіта было інкрымінавана яму, дзе там крамола. Як мы ведаем, прычынай забароны мастацкага твора некалі маглі паслужыць нават тыя ці іншыя звесткі пра людзей, рэпрэсіраваных у гады культу асобы Сталіна — фатаграфіі, цытаты, спасылкі. Сюды ўвайшла таксама літаратурная спадчына рэпрэсіраваных дзяржаўных дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў Беларусі. Назаву толькі некаторае з перададзенага ў агульнае карыстанне: «Чытанка для школ малапісьменных. Новае жыццё», выдадзена ў 1929 годзе. Аўтары К. Бялевіч, П. Капаевіч, Ф. Сцепановіч; «Беларускі правапіс»; «Гісторыя беларускае літаратуры» М. Гарэцкага; матэрыялы Другой Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі 1929 года. Выданне Акадэміі навук; матэрыялы Другога ўсебеларускага з'езда калгаснікаў; «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы». Жылуновіч, Байкоў; «У. І. Ленін аб прафсаюзах», выданне 1927 года; «Ленинизм или троцкизм» (1924 год); «Методыка роднае мовы» К. Міцкевіча, выдадзеная ў 1926 годзе; зборнік артыкулаў і ўспамінаў «Октябрьская революция в Белоруссии», складальнік С. Агурскі; апавяданні Ядвігіна Ш. (выданне 1918 года)...

Такім чынам, як вы разумееце, мы ідзём па шляху значнага скарачэння спецфондаў. І зусім не імкнёмся трымаць за сямю замкамі тое, што не з'яўляецца сакрэтным. Хацелася б заўважыць, што спецфонды — не наша вынаходніцтва, існуюць яны і за мяжой. Што ж пакінута ў нашых спецфондах? Навукова-тэхнічная літаратура, якая мае дзяржаўныя або ваенныя тайны і прызначана для службовага карыстання, зарубежныя і тыя, што выйшлі ў нашай краіне, кнігі нацыяналістычнага напрамку, антысавецкага зместу, сіяністская і антысеміцкая літаратура. Заўважу, што перавод літаратуры са спецфондаў распачаўся не сёння, а з сярэдзіны 60-х гадоў. Але ж работа тады была прыпынена. Перабудова дала магчымасць прадоўжыць гэту справу. Была створана саюзная камісія, якая зноў узялася за спецфонды. Зараз у агульныя фонды бібліятэкі вернута больш за 7,5 тысячы назваў кніг. У спецфондах на сёння каля 400 назваў кніг.

**Аляксандр МІХАЛЬЧАНКА, намеснік начальніка Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР.**

*— Больш за 12 мільёнаў адзінак захоўвання налічваецца ў беларускіх архівах. А выкарыстоўвалася да нядаўняга часу толькі 2—3 працэнты з усяго акіяна дакументаў. Да многіх з іх быў абмежаваны допуск. Даволі жорсткі парадак выдачы перакрываў туды шлях проста цікаўнаму чалавеку, а нярэдка значна абмяжоўваў і работу даследчыка...*

— У дзяржаўных архівах у нас існуе тры віды абмежаванняў: «сакрэтна» («С»), «абмежаваны допуск («АД») і тыя выпадкі, калі матэрыялы немагчыма выкарыстоўваць па тэхнічных прычынах. (Ну, з апошнім усё зразумела: яны падлягаюць рэстаўрацыі, чым займаецца наша лабараторыя). Грыф «сакрэтна» і «абмежаваны допуск» на дакументах зусім не азначае, што з імі ніхто не працуе. Напрыклад, каб атрымаць дазвол на работу з дакументамі «С», «АД», спецыяліст павінен прадставіць хадайніцтва той арганізацыі, у інтарэсах якой ён працуе, з указаннем тэмы даследавання. Матэрыялы яму прадастаўляюцца строга ў рамках акрэсленай тэмы. А для асоб, што працуюць у асабістых інтарэсах, — толькі агульны фонд. Правілы, як вы заўважылі, даволі жорсткія.

Іншая справа, калі ў абмежаваным карыстанні знаходзяцца дакументы, якім, па сутнасці, даўно ўжо месца ў агульных фондах. (Вядома, сюды не ўваходзяць дакументы, якія ўтрымліваюць дзяржаўную тайну, закранаюць знешнепалітычную і знешнеэканамічную палітыку нашай дзяржавы і інтарэсы іншых краін, абароннага характару і г. д.).

З сярэдзіны мінулага года мы распачалі вялікую работу па зняццю першых двух відаў абмежаванняў. Актыўна працуюць спецыялісты, эксперты. Зроблена нямала. Мяркуйце самі. 204 тысячы адзінак захоўвання было пад грыфам «сакрэтна», 269 — «абмежаваны допуск». Ужо цяпер практычна з кожнай другой з 473 тысяч адзінак захоўвання, што былі ў большай ці меншай ступені сакрэтнымі, зняты абмежаванні. Напрыклад, адкрыты ўсе дарэвалюцыйныя гістарычныя архівы, амаль усе даваенныя фонды, а таксама фонды дзяржаўнай улады, народнага кантролю, прамысловасці, статыстыкі, юстыцыі, сельскай і лясной гаспадаркі, аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння па ўсіх абласцях рэспублікі, зняты абмежаванні з асабістых фондаў дзеячаў культуры (Сымона Баранавых, Міхася Клімковіча), адкрыты дакументы рэдакцыі газет «Наша Ніва» і «Маланка», якія захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

Практычна не засталося дакументаў з абмежаваным допускам у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР у Мінску, у Цэнтральным дзяржаўным архіве навукова-тэхнічнай дакументацыі БССР. Знялі «абмежаваны допуск» архівы Гомельскай вобласці, амаль усе — у Брэсцкай і Гродзенскай. Вядзецца яшчэ работа ў Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай абласцях, завяршаецца — у Дзяржаўным архіве кіна-,фота-, фонадакументаў БССР.

У гэтай справе ў нас існуюць і некаторыя праблемы. Я маю на ўвазе асобных фондаўтваральнікаў. (У нас жа 11 тысяч арганізацый, якія маюць свае фонды. Натуральна, яны праз свае міністэрствы, ведамствы вызначаюць рэжым захоўвання дакументаў). Некаторыя з іх далі права даследчыкам знаёміцца са справамі, якія захоўваюцца ў іх архівах, без спецдазволу. Дзяржкамстат, Дзяржплан, Мінфін БССР знялі «абмежаваны допуск» са значнай часткі спраў. У Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва на сёння засталося 50 тысяч спраў, якія выкарыстоўваюцца толькі з улікам абмежаванняў. Усё гэта, зразумела, стварае пэўныя нязручнасці даследчыкам, выклікае справядлівую незадаволенасць людзей. Таму мы накіравалі ва ўсе міністэрствы і ведамствы рэспублікі пісьмы з просьбай перагледзець парадак выдачы архіўных дакументаў. Будзем спадзявацца, што перамены адбудуцца і тут.

**Лілія БАЛЫНІНА, загадчыца аддзела інфармацыі, публікацыі і навуковага выкарыстання дакументаў Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР.**

*— Раскажыце, калі ласка, пра выстаўку, якая падрыхтавана супрацоўнікамі вашага музея і аб'яднанай дырэкцыяй літаратурных музеяў БССР да 70-гадовага юбілею рэспублікі і Кампартыі Беларусі і неўзабаве павінна адкрыцца.*

— Гэта будзе выстаўка дакументаў. Мы назвалі яе «Першыя крокі». Яе экспазіцыя раскажа сучаснікам пра той вельмі плённы для нашай гісторыі перыяд, калі Беларусь, атрымаўшы ўпершыню дзяржаўнасць, пачала будаваць новае жыццё. Тут будуць прадстаўлены кнігі, газеты, часопісы, афішы, запрашэнні, мандаты, тэатральныя праграмкі, фотаздымкі 20-х гадоў, дзе нашы сучаснікі ўбачаць сцэны з першых спектакляў беларускіх тэатраў, славутых артыстаў у ролях. Дзякуючы архіўным матэрыялам, гледачы змогуць таксама пазнаёміцца бліжэй з творчасцю пісьменнікаў тых гадоў. Убачаць першыя выданні «маладнякоўцаў». Каштоўнасць такой выстаўкі ў тым, што ўсе дакументы на ёй будуць паказаны ў арыгінале. І ўпершыню.

Асноўныя матэрыялы гэтай экспазіцыі ўзяты з фондаў нашага вядомага беларускага савецкага пісьменніка і грамадскага дзеяча Язэпа (Лявона Восіпавіча) Дылы, які ў студзені-лютым 1919 года быў народным камісарам працы ў Часовым рабоча-сялянскім савецкім урадзе Беларусі. У нашым архіве захоўваецца асабісты фонд Дылы, у які ўвайшлі дакументы за 1899—1961 гады. У ім захаваліся рукапісы Дылы — мастацкіх твораў, артыкулаў па гісторыі тэатральнага мастацтва, успаміны пра Леніна, Купалу, аб сустрэчах з Я. Райнісам, пераклады латышскіх казак на рускую мову і іншыя.

Дакументы фонду расказваюць пра работу Дылы на кіруючых пасадах у савецкіх установах, Беларускім навукова-культурным таварыстве ў Маскве, Ваенна-рэвалюцыйным камітэце, Наркамаце асветы БССР, Белдзяржуніверсітэце, Інстытуце беларускай культуры, Белдзяржкіно і БДТ-І, у Мінскім Савеце рабочых і сялянскіх дэпутатаў.

Пэўную цікавасць уяўляюць пісьмы дзеячаў культуры да Дылы за 1920—1930 гады, якія даюць дастаткова поўнае, яркае ўяўленне пра тыя часы. Напрыклад, ад Гурскага, Кнорына, Эпімах-Шыпілы, Бірылы, Міцкевіча, Галубка, Літвінава, Пукста, Грыневіча, Анцава, Сташэўскага, Жылкі. Усе гэтыя людзі былі звязаны паміж сабой, шчыра клапаціліся пра развіццё культуры, аддавалі гэтаму ўсе свае сілы і энергію. У іх былі чыстыя памкненні, гарачыя душы і светлыя галовы. Яны, нашы пачынальнікі, вельмі моцна любілі сваю зямлю, свой народ.

«Прыходзіў наконт магілы Багдановіча. Падгатуйце, зайду праз пару гадзін»,— гэта напісаў Дылу А. Александровіч у 1929 годзе. «Дзядзька Язэп! Прыходзьце сёння разам з жонкаю да Якуба Коласа. Там будзе полымская вячэра, прысвечаная юбілею Гартнага»,— напісана ў тым жа 1929 годзе рукою Сташэўскага, які ў далейшым падзяліў лёс сваіх сяброў і саратнікаў, рэпрэсіраваных у гады культу асобы.

Сярод гэтых цікавых экспанатаў наведвальнікі змогуць убачыць і матэрыялы нечаканыя. Гэта пратаколы вобыскаў у Я. Дылы, заявы рэпрэсіраванага пісьменніка, які адбываў тэрмін пакарання ў ссылцы, у камітэт дзяржаўнай бяспекі, пракурору па справах Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ), даведкі аб спыненні справы за недастатковасцю абвінавачванняў... Напісаныя дрыжачай рукой хворага чалавека радкі, у якіх аўтар клянецца, што ні ў чым не вінаваты перад сваім народам, здольныя расказаць нашчадкам Дылы куды больш пра той трагічны час, чым падручнікі па гісторыі. Але нам нікуды не схавацца ад гэтых маўклівых сведкаў — дакументаў эпохі. Нам трэба ведаць усё, каб з чыстым сумленнем крочыць у будучыню.

*ЗАЛАТЫ ВЕК КАМПАЗІТАРАЎ*

# ЯКАЯ ПАТРЭБНА НАРОДУ МУЗЫКА?

Услед за пісьменнікамі, дзеячамі тэатра і кіно нарэшце і музыканты выходзяць у авангард перабудовы. Нібыта пасля доўгай зімняй спячкі ажыў шматтысячны вулей музычнага згуртавання, адчуўшы, што пара забарон і афіцыёза мінавала, што вятры перамен рухаюць музычную стыхію ў бок свабоды, публічнасці і плюралізму.

Можна прыгадаць цэлы шэраг пераломных падзей у музычным жыцці, якія сталі прыкметнай вяхой і ў жыцці сацыяльным. Ну, скажам, падзеі, што разгарнуліся ў Ленінградзе ў красавіку 1987 года, калі ўпершыню рок-музыка была ўключана ў праграмы і дыскусіі пленума праўлення Саюза кампазітараў РСФСР. Музыканты-прафесіяналы на чале з Радзівонам Шчадрыным і Андрэем Пятровым кінуліся тады ў самае «пекла» рок-музыкі — Дом моладзі, каб павесці размову аб набалелым, зрабіць спробу рэканструяваць разбураныя кантакты і давер'е той часткі маладых слухачоў, якая пайшла ў рок-культуру. Гэта была спроба прарваць руціну вузкацэхавых інтарэсаў, адкрыць шлюзы публічнасці — жывой крытыкі мас, жадання раіцца з народам. І яна не прайшла бясследна. Дыскусіі працягваліся ў Маскве на фестывалі «Маскоўская восень». Як гаварыў тады кіраўнік «лабараторыі трэцяга напрамку» кампазітар Генадзь Гладкоў, «настаў час злучыць кансерваторыю з масавай культурай, зліць разам намаганні былых музычных антаганістаў».

А праз некалькі месяцаў у сценах Маскоўскай кансерваторыі адбыліся дзве сустрэчы-дыскусіі вучоных-музыказнаўцаў і спецыялістаў сумежных мастацтваў, прысвечаныя праблемам рок-музыкі. Тут упершыню была зроблена спроба зірнуць на гэтае дзецішча XX стагоддзя з пункту гледжання гісторыі сусветнай культуры ў цэлым, каб сфармуляваць палажэнне аб трох тыпах музычнай культуры, таму што факт існавання «трэцяй культуры музыкі» яшчэ толькі ўсведамляецца вучонымі. Істотнай была не толькі сама дыскусія ў галоўным прыстанку класікі. Істотны быў яе вынік — перакананне ў вычарпальнасці рок-руху, якому суджана трансфармавацца ў акадэмічныя формы «другой культуры» (прафесійнай, пісьмовай кампазіцыі), а таксама ў разнастайныя формы фальклору, эстраднай і аўтарскай песні.

Ці ўзяць 50-гадовы юбілей Уладзіміра Высоцкага, «першага савецкага рокера» і «вялікага народнага барда», як гавораць тыя, хто спрабуе аналізаваць гэты феномен. Тое, што адбывалася ў студзені бягучага года ў прэсе, на радыё і тэлебачанні, у канцэртных залах, тэатрах, Дамах творчасці і Палацах культуры, цяжка назваць падзеяй толькі музычна-тэатральнага ці літаратурнага жыцця. Гэта была нейкая грандыёзная грамадска-палітычная акцыя, стыхія народнага руху, свята публічнасці і новага духоўнага мыслення. Лёс паэта, спевака, музыканта, які прыйшоў праз ганенне і забароны — пасмяротна — да свайго сапраўднага прызнання, стаў як бы здабыткам усяго народа.

Не выпадкова ў сённяшніх дыскусіях успамінаюць афарызм Льва Талстога: «Музыка — дзяржаўная справа». Страчваючы рысы дзяржаўнага афіцыёза і ўраўняльнай «прыстойнасці» (гэта значыць, нуднай стандартызацыі), музыка набывае разнастайныя рысы. Не выпадкова ў адным з тэлевізійных інтэрв'ю кампазітар Эдуард Арцем'еў, вядомы галоўным чынам як аўтар ярка-сучаснай электроннай кінамузыкі, сказаў: «Для кампазітараў надышоў залаты век. Мы можам цяпер рабіць усё, што хочам». Ён меў на ўвазе не толькі злучэнне гукаў штучных (створаных на сінтэзатарах) з натуральнымі, увядзенне электронных інструментаў у партытуры, але і разнастайнай транскрыпцыі і прэпарацыі класікі, злучэнне прыёмаў музыкі «высокай» і «нізкай»... Мы бачым гэтыя парадаксальна-яркія злучэнні ў музыцы такіх розных кампазітараў, як Альфрэд Шнітке, Сяргей Слонімскі, Гія Канчэлі, Соф'я Губайдуліна, Мікалай Сідзельнікаў. Гэтая музыка, якая замоўчвалася і праследавалася ў былыя часы сталінска-ждануўскіх дэкрэтаў і брэжнеўскага застою, гучыць сёння ў поўную сілу, выклікаючы вялікую грамадскую цікавасць.

«Сёння кампазітар не можа прытрымлівацца ніводнай традыцыйнай тэхнікі»,— гаворыць адзін з лідэраў савецкага музычнага авангарда Эдзісон Дзянісаў, чые творы (такія, як опера «Пена дзён», «Рэквіем», Сімфонія, Габойны і Альтовы канцэрты) атрымалі сусветнае прызнанне. Зразумела, гэта так. Таму што, адмовіўшыся ад усіх «нельга», маючы ў якасці апошняй «візіруючай» інстанцыі суд публікі, кампазітары апынуліся перад вялікім выбарам выразных і канструктыўных сродкаў, традыцыйных акадэмічных і народна-масавых форм і стыляў. Знікла патрэба і неабходнасць тварыць у духу пэўнай «школы» ці пануючага напрамку (як гэта было яшчэ ў часы Пракоф'ева, Шастаковіча). Сёння кожны новы твор буйнога кампазітара як бы стварае новую тэхніку, новую форму і канцэпцыю. Праца кампазітара ўсё больш страчвае рысы рамяства, кананізаваных прыёмаў, набываючы подых доўгачаканай свабоды.

А вось некаторыя іншыя рысы эпохі перабудовы ў музыцы. Вялікая падзея года — святкаванне тысячагоддзя хрышчэння Русі — расчыніла гістарычную перспектыву рускага мастацтва, увяла ў музычны быт вялікі пласт забытай царкоўнай харавой музыкі — ідэал гарманічнай прыгажосці і духоўнага яднання людзей. Летам гэтага года адбылося адкрыццё такіх шэдэўраў, як «Літургія святога Іаана Златауста», і «Усяночнае дбанне» Рахманінава, духоўныя творы Чайкоўскага, Кастальскага, Грачанінава, Архангельскага, Часнакова, Шведава. Гэта быў сапраўдны пераварот у ідэалагічнай «аўры» нашага музычнага мыслення, падобны да шоку. Радасць адкрыцця азмрочылася ўсведамленнем беззваротных страт. Таму што добра вядома, наколькі заганным для маральнасці і музычных густаў людзей стаў разрыў са шматвяковай традыцыяй прафесіянальнага харавога мастацтва і харавых спеваў у быце, спыненне сур'ёзнага выхавання спевамі ў школе. З горкай іроніяй даводзіцца фіксіраваць той факт, што выраслі цэлыя пакаленні людзей, якія не могуць праспяваць гімн сваёй краіны...

Тысячагоддзе хрышчэння Русі стала стымулюючай прычынай для шэрагу прэм'ер, сярод якіх адной з самых буйных стаў «Увасоблены анёл» (паводле М. Ляскова) Радзівона Шчадрына для змешанага хору і жалейкі. Твор, які гучыць каля гадзіны, звязаны тысячамі ніцей са старажытнымі традыцыямі знаменнага распеву, стылістыкі кантаў і позняй падгалосачнай поліфаніі, з трад[illegible]ыямі рускай класічнай і савецкай хар[illegible] музыкі.

І [illegible]шчэ аб адной прэм'еры нельга не сказаць. У дні святкавання тысячагоддзя хрышчэння Русі ўпершыню па радыё прагучала араторыя Мікалая Сідзельнікава «Той, хто падняў меч» на тэксты старажытнарускіх [illegible]тапісаў («Повесть временных лет»). 27 [illegible] ў чакаў гэты твор свайго часу! Заклеймаваны ў свой час як «папоўшчына», ён быў адхілены. А між тым яго высока ацаніў Шастаковіч. Сёння гэтая араторыя, якая расказвае пра гісторыю князёў Барыса і Глеба, загубленых Святаполкам Акаянным, і Яраслава Мудрага, які здзейсніў свой справядлівы суд над забойцамі, прагучала з усёй урачыстай магутнасцю рускай героіка-эпічнай опернай традыцыі, выклікаўшы ўдзячны водгук слухачоў.

Бурны працэс запаўнення «белых плям» на карце савецкай музычнай культуры перакідваецца і на рускую класіку. Дырыжор Яўгеній Святланаў запісаў на грампласцінкі невядомыя, якія ніколі не гучалі на савецкай эстрадзе сімфанічныя творы Сяргея Ляпунова (сярод якіх такі шэдэўр, як усходняя сімфанічная паэма «Гашыш»). У юбілейны дзень Аляксандра Даргамыжскага яго «поўны збор твораў» выканаў (склаў і развучыў са спевакамі і інструменталістамі) вядомы кампазітар і піяніст Міхаіл Ермалаеў.

А ў прэсе чуюцца галасы, якія заклікаюць да «ачышчэння» вялікай оперы Глінкі «Іван Сусанін»: добра вядома, якім дэфармацыям было падвергнута яе арыгінальнае лібрэта барона Розена і сама першапачатковая назва оперы...

Сёння прэсу чытаюць з фанатычнай прыхільнасцю. Нехта нават трапна сказаў: сёння чытаць цікавей, чым жыць. Крытыка і палеміка ахапілі літаральна ўсе сферы творчасці, а таксама кіравання і арганізацыі музычнага жыцця, дзейнасці яе кіраўнікоў — ад першага сакратара праўлення Саюза кампазітараў СССР да міністра культуры. Рэзкай крытыцы і перагляду падвяргаецца работа часопісаў «Советская музыка» і «Музыкальная жизнь» і асабліва ўся сістэма дзейнасці Саюза кампазітараў, які ператварыўся ў «інструмент націску» і «антыдэмакратычнага адміністравання» (словы кампазітара Мікаэла Тарывердзіева). Разглядаюцца пытанні, звязаныя з сумным становішчам крытыкі і музычнай адукацыі.

Але, можа быць, важней за ўсё і даражэй у прэсе мужны аналіз і перааацэнка тых валюнтарысцкіх акцый 30—40-х гадоў, вынікам якіх стала сучаснае крызіснае становішча фундаментальнай музычнай культуры.

Зрэшты, сярод сённяшняга плюралізму меркаванняў можна сустрэць і такое: слова «крызіс» азначае «новае нараджэнне» (ці «новае рашэнне»). Як гаварыў адзін сучасны кампазітар, «музыка не ведае перыяду разгубленасці, яна знаходзіцца ў разгубленасці вечна».

**Тамара ГРУМ-ГРЖЫМАЙЛА,**
**музычны крытык.**

## Гаўрыла ГАРЭЦКІ

**20 лістапада 1988 года на 89-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр вядомы савецкі вучоны ў галіне навук аб Зямлі, акадэмік АН БССР, заслужаны дзеяч навукі БССР Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі.**

**У некралогу, падпісаным кіраўнікамі партыі і ўрада БССР, дзеячамі навукі і культуры, гаворыцца: «Г. Гарэцкі нарадзіўся 10 красавіка 1900 года ў вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні ў сялянскай сям'і. Працоўную дзейнасць пачаў у 1918 годзе пасля заканчэння Горы-Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча. У 1924 годзе закончыў Пятроўскую (Ціміразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію, у 1925—1927 гадах — дацэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, у 1927—1930 гадах—дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна. У ліку першых у 1928 годзе ён быў зацверджаны правадзейным членам Акадэміі навук Беларускай ССР.**

**Акадэмік Гарэцкі стаяў ля вытокаў беларускай савецкай культуры і навукі, ён прымаў актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці рэспублікі. У 1927 годзе быў выбраны кандыдатам у члены Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР, а ў 1929 годзе — членам ЦВК БССР.**

**Г. Гарэцкі — выдатны вучоны ў галіне геалогіі антрапагену, заснавальнік новага напрамку — палеапатамалогіі. Яго навуковая дзейнасць была звязана з вывучэннем будовы і геалагічнай гісторыі развіцця вялікіх рэк Рускай раўніны. Вынікі даследаванняў вучонага ў гэтай галіне ўдастоены Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года. За распрацоўку і ўкараненне навуковых асноў геалогіі антрапагену і геамарфалогіі ў практыку геолагаразведачных работ у рэспубліцы яму прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларускай ССР 1986 года.**

**Шматгадовая плённая навуковая дзейнасць Г. Гарэцкага атрымала высокую ацэнку: ён узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, многімі медалямі».**

*ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ*

# ВЁСКІ НА[illegible] ДНЯПРОЎСКАЙ СТРОМАЙ

Расказваюць старыя, што больш за сто гадоў назад стаяў на высокім правым беразе Дняпра [illegible]агутны стары дуб. З незабы[illegible] часоў рос ён тут, шмат ба[illegible]ыў на сваім вяку, смела кідаў выклік ветру і маланцы. І людзі з павагай глядзелі на гэтага прыбярэжнага волата, а потым пачалі будаваць вакол яго свае хаціны. А калі вырасла тут невялічкая вёсачка, вырашылі назваць яе проста — Стары Дуб, а пазней — Старадубка, ці Страдубка.

Мясцовая легенда як быццам адпавядае рэчаіснасці. Хоць і няма цяпер таго дуба, але гістарычны цэнтр Страдубкі размяшчаецца якраз над рачной стромай, у 28 кіламетрах ад Лоева ўверх па цячэнні Дняпра. З вышыні прыбярэжнага дрэва горда глядзіць на магутную раку прыгажун дняпроўскіх прастораў — белы бусел, які ўжо шмат гадоў кожную вясну вяртаецца ў сваё старадубскае гняздо.

У Страдубцы разам з суседняй вёскай Чаплін налічваецца больш за 1 140 жыхароў і 551 гаспадарка. Страдубка — цэнтр сельсавета і саўгаса «Усход», 20-годдзе заснавання якога было адзначана жыхарамі сёлета.

Паміж Страдубкай і Чаплінам цяпер амаль няма ніякай граніцы. Адна вёска пераходзіць у другую. На месцы былой Яўхімавай Лужы — балоцістай нізіны, якраз там, дзе злучаюцца вёскі, будуецца цэлы комплекс прыватных цагляных домікаў, у многіх з якіх ужо жывуць як мясцовыя жыхары, так і прыезджыя спецыялісты, механізатары, рабочыя.

...Калі спусціцца ад хат уніз да ракі, то ўважлівае вока абавязкова ўбачыць гліняныя чарапкі, рэшткі посуду, якім, магчыма, карысталіся людзі старажытнарускай эпохі. Цікава, што гэтыя сведкі стагоддзяў адшукваюцца толькі на паўднёвым канцы Страдубкі. У іншых месцах іх няма. Рыльцы пасудзін, абпаленыя днішчы гаршкоў, часцінкі закругленых бакавін сям-там з цікавым арнаментам ляжаць проста ў пяску. Мясцовыя хлопчыкі гавораць, што бліжэй да канца лета, калі ўзровень вады ў рацэ стане нізкім, чарапкоў можна ўбачыць яшчэ больш. А вось васьмікласнік Коля Краўчанка сабраў цікавую калекцыю старадаўніх манет XVI—XIX стагоддзяў, якія ён знаходзіць на рачным беразе. І калі гэтыя факты супаставіць з легендай аб старым дубе, то з ўпэўненасцю можна сцвярджаць: не сто і не дзвесце гадоў вёсцы Страдубка. Людзі пачалі сяліцца тут з незабыўнай пары.

Побач з месцам злучэння Страдубкі і Чапліна ёсць невялікае ўзвышша. Яно размяшчаецца на вышыні каля 16 метраў над поймай Дняпра на пляцоўцы, якая па форме нагадвае трапецыю. З трох бакоў — адвесная строма, далёка ўнізе бягуць у Днепр безыменныя ручаі, а з чацвёртага боку — дугападобны вал каля 3 метраў вышынёй і роў. Такія месцы археолагі называюць гарадзішчамі.

Чаплінскае гарадзішча, якое адносіцца да III стагоддзя да новай эры — II стагоддзя новай эры, з'яўляецца самым вялікім і амаль поўнасцю раскапаным археалагічным комплексам ранняга жалезнага веку ў беларускім Падняпроўі.

У час знаходжання на гарадзішчы звычайна адчуваеш нейкае хваляванне, думкамі пераносішся ў далёкія стагоддзі, калі сівы Днепр усё гэтак жа нястомна спяшаўся на поўдзень. І ўсё гэтак жа навокал буйна квітнела прырода; на прыбярэжнай гары стаялі збудаванні нашых продкаў, паўзямлянкі і гаспадарчыя ямы рознага прызначэння, у якіх захоўваліся мяса, рыба, караняплоды...

Магчыма, аб гэтым расказвае сваім вучням дырэктар мясцовай школы Анатоль Долатаў, які абавязкова праводзіць першы ўрок гісторыі менавіта на Чаплінскім гарадзішчы.

Заўсёды добра, калі ў тым ці іншым населеным пункце, асабліва ў сельскай мясцовасці, ёсць чалавек, закаханы ў гісторыю свайго краю. Ён збярэ па крупінках амаль страча-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**III.** **Пазнаёміўшыся з жыццём палескага калгаса імя Горкага, робіш вывад: тут ёсць парадак. І як вынік — ва ўсіх галінах гаспадаркі трывалы, надзейны эканамічны рост. Але ж галоўнае багацце, зразумела, — яго людзі, працавітыя, шчырыя. Сёння ў калгасных майстэрнях, на фермах, на палетках дастаткова моцных рук. І што асабліва прыемна: у гаспадарцы шмат маладых людзей, многія з іх заслужылі павагу ў сваіх працоўных калектывах і ў вёсцы. Моладзь адчувае ўласную адказнасць за будучыню свайго калгаса, за лёс родных мясцін. А эстафету перадае ім старэйшае пакаленне вяскоўцаў, якое шмат зведала і пабачыла ў жыцці. Пра многае мог бы расказаць, напрыклад, Ігнат Шахновіч. І пра дарогі Вялікай Айчыннай вайны, якімі прайшоў калісьці, і пра нялёгкую працу сялянскую, зведаную ім спаўна. Ды і ці мала такіх людзей у калгасе! Шмат тут дастойных вяскоўцаў, ёсць да каго за вопытам звяртацца.**

**НА ЗДЫМКАХ: ветэран працы і Вялікай Айчыннай вайны Ігнат ШАХНОВІЧ; у гаспадарцы не адмовіліся ад коней. Іх даглядае Аляксей ДЗІСКАВЕЦ; калгасны пчаляр Аляксей АРХІПОВІЧ.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**







# ВЁСКІ НАД ДНЯПРОЎСКАЙ СТРОМАЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

ныя звесткі аб вёсцы, паўзабытыя факты, ён адновіць тыя легенды і расказы, якія памятаюць толькі старажылы.

Такі чалавек у Страдубцы — Анатоль Долатаў. Не будзе перабольшаннем сказаць, што ён з'яўляецца «гаспадаром» унікальнага гістарычнага архіва, у якім прадстаўлена гісторыя не толькі Страдубкі і Чапліна, але і навакольных населеных пунктаў, якія ў мінулым уваходзілі ў склад Холмечскай воласці. З архіва мы даведаліся, напрыклад, аб тым, што ўладальнікамі Чапліна амаль з XVIII стагоддзя былі паны Ракіцкія, якіх мясцовыя жыхары часам ведаюць як Чаплінскіх і ад іх імя нярэдка тлумачаць назву вёскі. Архіў паведамляе, што першая школа ў Чапліне была адкрыта ў 1886 годзе, што праз дзесяцігоддзе ў Чапліне было 123 дваровыя месцы і каля 900 жыхароў, а ў Страдубцы адпаведна — 58 і 395. У школьным архіве ёсць фотакопіі паведамленняў расійскага друку аб хваляваннях і непадпарадкаванні сялян Холмечскай воласці, аб колькасці ўраблямай зямлі каля мястэчка Лоева і шмат іншай цікавай і карыснай для краязнаўцаў, гісторыкаў і географаў інфармацыі.

Пад кіраўніцтвам дырэктара і настаўнікаў-гісторыкаў у школе дзейнічае секцыя юных следапытаў. У яе распараджэнні знаходзяцца пісьмы амаль ад тысячы карэспандэнтаў. Вучні перапісваюцца з удзельнікамі баёў у час Вялікай Айчыннай вайны на Лоеўшчыне, з роднымі тых воінаў, якія загінулі пры вызваленні Страдубкі і Чапліна ў лістападзе 1943 года. Следапыты збіраюць і ўспаміны мясцовых жыхароў. Большасць з іх запісаны на магнітную стужку.

Найбольшая колькасць дакументаў і матэрыялаў прысвечана перыяду апошняй вайны не выпадкова. У цэнтры вёскі — брацкая магіла, дзе пахаваны 428 воінаў 65-й арміі генерала П. Батава, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у тым ліку і за населеныя пункты Страдубка і Чаплін.

Вучні страдубскай і чаплінскай школ устанавілі што паспяховай атацы са х танкаў у раёне Страдуб.. садзейнічала група разведчыкаў на чале з палітруком Іванам Кафанавым, які змагаўся і геройскі загінуў у Страдубцы.

Ва ўсім Страдубскі.. сельсавеце пасля вызвале ў лістападзе 1943 года .сталося ўсяго 14 хат. Сама вёска была зруйнавана дашчэнту, а ў Чапліне некранутымі аказаліся ўсяго некалькі дамоў.

Яшчэ адзін знамянальны факт, узяты са школьнага музея: 9 жыхароў Страдубскага сельсавета ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Пад кіраўніцтвам настаўнікаў-гісторыкаў вучні праводзяць не толькі пошукавую работу, але і археалагічныя раскопкі. У пасёлку Рэкорд паблізу Страдубкі знойдзена селішча балотнага тыпу, якое адносіцца да каменнага веку (прыкладна да V—IV тысячагоддзяў да новай эры). Хлапчукі працуюць з вялікай цікавасцю, а калі знаходзяць наканечнік кап'я, рубіла ці частку зерняцёркі, іх радасць цяжка перадаць словамі.

Дарэчы, з мясцінамі ля пасёлка Рэкорд звязаны гістарычныя падзеі другой паловы XVII стагоддзя. Жыхары Страдубкі добра ведаюць так званую Ляхаву Гару — адвесную берагавую строму вышынёй больш за 12-павярховы будынак. На думку дырэктара школы А. Долатава, менавіта на гэтым месцы летам 1649 года загінулі апошнія воіны казацкага атрада Міхаіла Крычэўскага, вернага паплечніка і саюзніка Багдана Хмяльніцкага.

Побач з Ляхавай Гарой у 1925 годзе была пабудавана першая ў Беларусі шахта па здабычы фарбы охры і мелавых адкладанняў.

Даволі часта даводзіцца чуць, што гісторыя многіх нашых гарадоў і вёсак не вельмі багатая і цікавая. Але гэта далёка не так. Гісторыя ёсць усюды, і нельга яе дзяліць на багатую ці бедную. Гісторыя цэнная не толькі знешнімі прывабнымі атрыбутамі, а сваёй захаванасцю ў чалавечай памяці. Мясцовыя краязнаўцы Страдубкі і Чапліна даказваюць гэта сваімі справамі.

Бібліятэкар Страдубскай сельскай бібліятэкі Людміла Зубец склала цікавы «Летапіс вёскі Страдубка» ў асноўным з успамінаў мясцовых старажылаў. З яго можна, напрыклад, даведацца аб тым, што жыхары Страдубкі ў перыяд набліжэння рэвалюцыйных падзей у краіне арганізавалі забастоўку на сенапрэсавальным заводзе, пабудаваным на левым беразе Дняпра, насупраць вёскі, у 1905 годзе. Ён належаў памешчыцы Бараноўскай. Сяляне, якія працавалі тут, выступалі супраць эканамічнага прыгнёту арандатара Мандэналя. У час рэвалюцыі завод быў спалены, ад яго засталося адно толькі месца, якое дагэтуль так і называецца — «Завод».

Вось яшчэ адзін цікавы факт, звязаны з рэвалюцыйнымі падзеямі, які мае адносіны да гісторыі Чапліна, Страдубкі і навакольных вёсак.

Напярэдадні рэвалюцыі 1905 года хадзіў па Дняпры з Чорнага мора параход «Вера». Спыняўся ён у вёсцы Казіміраўка, што ў 2,5 кіламетра ад Ляхавай Гары ўніз па рацэ. Менавіта ў гэтым пункце выгружаліся 43 выпускі газеты «Искра». Тут быў адзін з галоўных шляхоў першай бальшавіцкай газеты на Палессі. Аб гэтым гаворыць дырэктар школы сваім вучням на ўроках гісторыі.

У «Летапісе вёскі Страдубка» адзначаны прозвішчы найбольш актыўных мясцовых удзельнікаў грамадзянскай вайны. У ім жа адлюстраваны і цяжкі перыяд калектывізацыі. У вёсцы памятаюць імя першага старшыні калгаса «Беларусь», арганізаванага ў 1930 годзе,— Якава Кулагі, ведаюць і першыя калгасныя сем'і, а таксама дату з'яўлення ў калгасе першага трактара — 1934 год і прозвішча першага трактарыста — Філіп Пяшкун.

Завяршыць гэтыя нататкі хацелася б адным меркаваннем. Пры размовах з людзьмі ў Страдубцы і Чапліне вельмі часта ўзнікала пытанне аб паходжанні назваў вёсак. Калі з назвай Страдубка больш-менш справа зразумелая, то назва Чаплін даўно і пакуль што беспаспяхова тлумачыцца даследчыкамі. Можа быць, трэба звярнуць увагу на магчымасць супастаўлення назвы з дыялектным словам чалпан — «узгорак, невысокая града, круглявы курган», вядомым таксама ў іншых мовах народаў СССР. Гэтае слова па меры яго ўжывання ў якасці геаграфічнай назвы магло падвергнуцца скажэнню, што і прывяло да пераўтварэння чалпан у Чаплін.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

# У ФОНД МЕМАРЫЯЛА

22 лістапада ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся незвычайны спектакль. Гледачы ўбачылі адзін з лепшых спектакляў апошняга сезона — «Надзея Путніна, яе час, яе спадарожнікі», пастаўлены паводле драматычных сцэн Ігара Малеева. Увесь збор ад гэтага спектакля пойдзе ў фонд Мемарыяла памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

А... э гэтай п'есы Ігар Малееў (1905—1956) — вядомы сав... журналіст, нарысіст і фельетаніст «Комсомольской правды». Літаратурную дзейнасць ён пачаў як празаік у канцы дваццатых гадоў, друкаваўся ў часопісе «Новый мир». У 1937 годзе быў незаконна арыштаваны і сасланы ў Варкуту.

Пасля смерці І. Сталіна І. Малееў пачаў пісаць п'есу, яку... кончыў у 1956 годзе, незадоўга да сваёй заўчаснай ...рці. Дакумент аб рэабілітацыі І. Малеева сваякі атрымалі толькі ў 1965 годзе.

«Надзею Путніну» І. Малеева ў 50-я—60-я гады спрабавалі паставіць Ю. Любімаў, Г. Таўстаногаў, іншыя рэжысёры, але нават пачынаць работу над ёю ім забаранялася. Тройчы п'еса рыхтавалася да друку ў часопісе «Театр». Дазвол быў атрыманы толькі ў 1987 годзе. Купалаўцы зрабілі свой варыянт гэтай п'есы і ўпершыню ў СССР паставілі яе.

Галоўную ролю — Надзеі Путніной — у спектаклі выконваюць народная артыстка БССР Марыя Захарэвіч і актрыса Ніна Піскарова.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.**

**Фота Я. КОКТЫША.**





**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 1614